// Праваслаўны БЕЛАРУС

Год I | №19-20

Варшава | Нядзеля, 15 лістапада | 1925 г.

## Процiу тых, што нядбаюць аб чытаньнi Сьвятога Пiсаньня.

*Сьвятога Івана Златаустага.*

Скажы мне, даражэнькі, ці ня з двух тольні прыродаў складаемся мы, г. з. ці не з душы і цела? Дык чаму ж не аднальковую апеку мы маем аб абадвух, але цела стараемся лячыць усялякімі спасабамі: даём грошы дахтарам і самі шмат аб ім клапоцімся: адзяваем дарагой адзежай, выбіраем страву найлепшую, хочам каб яно карысталася беспарастанным спакоем і не цярпела ніколі ад аніякой хваробы: а аб душэ нядбаем, пакідаем яе без жаднай апекі і не даём ей патрэбнай ежы — я разумею навучаньне сьв. Пісаньня? Дзеля таго, што значыць цялесная ежа для падтрыманьня нашай сілы, тое самае чытаньне Пісаньня значыць для душы.

Яно ёсьць духоўная страва, яно умацовываець помыслы і робіць душу болей цьвёрдаю, сьмелай і любамудрай. Яно не дапускаець яе захапляцца нязлічонымі страсьцямі, а надаець ей лёгкія крылья і паднімаець, як сказаць, да самага неба. Дзеля гэтага ці не павінны мы стыдацца і чырванець, што ня толькі не клапоцімся аб прызнаньні догматаў, але наагул да ўсяго так сьцюдзёны і бяспечны і пагэтаму усім нядбаем? Скажыце мне, хто з вас дома бярэць у рукі хрысьціянскую кнігу, прачытываець з увагай што напісана там і стараецца узнаць Пісаньне? Ніхто няможаць сказаць гэтага аб сабе. Шашкі і косьці для гульні я найду шмат у каго, а Бібліі ні ў кога, у крайнем выпадку, надта у нямногіх. Ды і гэтыя абходзяцца з ей таксама, як і тыя, што зусім ня маюць: яны хаваюць яе дзе небудзь, або кладуць у шафах і рупяцца не аб тым, каб чытаць яе, а аб тым, каб мець напісаную на тонкім пэргамэнце і прыгожым пісьмом. Ніколі ня чуў я ні ад аднаго з гэтых чванліўцаў, што яны знаюць зьмест Бібліі, але — што яны маюць яе напісаную залатымі літарамі. Якая ж з гэтага карысьць скажы мне? Не дзеля таго нам дадзяна Пісаньне, каб бы мелі яго толькі ў кнігах, а каб напечатавалі яго



Патрыярх Александрыйскі Фоцій памер у верасьні г.г. у г. Цюріху (Швайцарыя) варочаючыся з релігійнага конгрэсу у Стокгольме.

в сэрцах. Хто з вас, скажыце мне далей, каб папрасіць яго прачытаць напамяць хоць адзін псалом, або другі які небудзь кусок з бажэсьцьвеннага Пісаньня мог бы зрабіць гэта? Напэўна ніхто. Каб наадварот, хто небудзь захацеў бы запытацца ў вас аб шатанскіх песьнях ці блудных і любаярлівых вершах, дык знайшоўбы шмат каго, што знаюць надта цьвёрда і пераказываюць з вялікай прыемнасьцю. А якое яны даюць апраўданьне ў гэткім праступку? „Я,—кажуць, —не манах: маю жонку і дзяцей і занят домам". Вось што ўсё азаражаець і губіць. Вы думаеце, што толькі адным манахам трэба чытаць бажэсьцьвеннае пісаньне! Наадварот, вы болей іх маеце ў гэтым патрэбу! Тым, каторыя варочуюцца сярод сьвету і штодзен на атрымываюць раны, асабліва неабходна гэта лячэньне. А дзеля гэтага думаць, што чытаць Пісаньне для нас лішняя справа, яшчэ шмат горш таго, чым зусім ня чытаць. Гэткія словы можыць умушчаць толькі нячысты дух. Ці хочаш ты ведаць як карысна Пісаньне? Выпробывай самаго сябе які будзеш ты, калі чуеш шатанскую песьню? Што пачуваеш ты, калі знаходзішся ў царкве, і што пачуваеш, калі сядзіш у тэатру? і ты пазнаеш як неадналькова бываець твая душа ў тым і другім стане, хоць яна і адна. Ня будзем грэбаваць чытаньнем бажэсьцьвеннага Пісаньня. Гэта ёсьць умушчэньне шатана, які перашкаджаець нам бачыць скарб, каб мы не разбагацелі.

Некаторыя апраўдываюцца ў гэткім выпадку пасадамі, клопатамі і няўпраўкай ад грамадзкіх і хатніх спраў. З першага пагляду здаецца і запраўды немалаважным прабачэньне таго, што яны абкружаны гэткім множаствам спраў, што ня маюць аніякай упраўкі каб заняцца самай неабходнай справай. Але што гэта ёсьць ня што іншае як толькі прыдлог і адгаворка,—гэта даказваюць з аднаго боку—іх зборы з тавырышамі, з другога—марнаваньне часу ў тэатрах і сядзеньне на конскіх скачках, дзе яны часта праводзяць цэлыя дні і ніхто ніколі не адмаўляецца ў гэткіх выпадках няўпраўкай ад службы. Такім парадкам, ад гэтых пустых заняткаў ніколі не адмаўляецеся і заўсёды можыце знаходзіць поўную упраўку.

Калі трэба заняца бажэсьцьвенным, дык вы гэта лічыце столькі лішнім для вас і столькі малаважным за ўсё, што ня думаеце ахвяраваць на гэта самага кароткага часу. Як могуць пасьля гэтага людзі дыхаць паветрам і глядзець на сонца? Гультаі дадаюць яшчэ і другое, самае безпадстаўнае прабачэньне—бытцам у іх няма Бібліі. Што належацца да багатых, дык сьмешна было б і казаць аб гэткім прабачэньні. Паскалькі я думаю, што ей карыстаюцца часта бедныя, дык я ахвотна жадаю запытацца: ці ня маюць яны ў сябе ўсіх і ў цэласьці варстатаў для таго рамясла, якім кажды з іх займаецца, хоцьбы перашкаджала б гэтаму крайная беднасьць? І ці ня дзіўна — у гэтым выпадку не адмаўляюцца беднасьцю, а наадварот — усё ужываць на тое, каб ні з якога боку і ня ў чым ня было перашкоды, а калі справа ідзець аб набыцьці гэтай важнай карысьці, — абплакаваюць сваю няўпраўку і беднасьць? Але каб і запраўды некаторыя былі так занадта бедныя, дык яны магліб знаць ўсё, што ёсьць у сьвяшчэнным пісаньні, з чытаньня, якое адбываецца тут. А калі і гэта вам здаецца немагчымым, дык гэта справядліва хіба толькі ад таго, што шмат каторыя толькі з відзімай шчырасьцю слухаюць чытаньне, і толькі праслухаўшы тое адно, што чытаецца штодзень, зараз ідуць дамоў. Некаторыя хоць і застаюцца на ўвесь час, але вядуць сябе нічым ня лепей вышаўшых, знаходзючыся тут толькі адным целам.

А тым часам няведаньне пісаньне нараждаець нязлічонае множства зол. Адсюль выцекла многа пагібельных ерасей, адсюль распуснае жыцьцё і бескарысныя заняткі. Дзеля таго што, як пазбаўленыя сьвятла ня могуць хадзіць проста, так і не асьвячаныя праменем бажэсьцьвеннага пісаньня, па неабходнасьці ўпадаюць у многія і бесперастанныя грахі, нібы як хадзячыя ў самай глыбокай цемры.

Хочаш ты каб твой сын быў абычайлівы? — З самага пачатку выховывай яго, па пераканаНЬю апостала: **у наказаньні і вучэньні Гасподні** (Ефес. 6. 4). Ня думай, што лішняя для яго справа—слухаць пісаньне, дзеля таго, што ён перш за усё пачуець там: **паважай айца твайго і мацер тваю**. Значыць гэта і для цябе самаго будзець карысна. Не кажы: „гэта справа манахаў - няўжош і мне сына свайго трэба зрабіць манахам?" Няма патрэбы рабіць яго манахам, але чаго табе баяцца таго, у чым знаходзіцца для яго столькі карысьці? Зрабі яго хрысьціянінам. Людзям сьвецкім асабліва патрэбна ведаць догматы пісаньня, пераважна ж дзецям, дзеля таго што гэтаму ўзросту належыць крайняя неразважнасьць. І ці не нясуразна выпраўляць дзяцей абучацца штукам і навукам, а не клапаціцца аб выхаваньні іх у наказаньні і ў навуцы Госпадавай?

Ад гэтага мы самі першыя пазнаём плады такога выхаваньня—выховываем дзяцей зухвалымі, неўстрыманымі, непакорнымі, нізкімі. Ня будзем жа рабіць гэтага, але паслухаемся угавору сьвятога Паўла. Пакажам ім прыклад з самага раннага ўзросту, прымушаючы іх займацца чытаньнем бажэственнага Пісаньня.

Сьвяшч. М. КУШНЕРУК.

# Праваслаўна-Хрысьціянская царква у адносінах да задач грамадзкага жыцьця.

Хрысьціянства, маючы сваім эвалюційным прынцыпам ідэю богачалавечаства, зьмяшчаець у сабе дзьве ідэі і два напрамкі—да Бога і да чалавечаства. Гэтыя дзьве ідэі ня ёсьць зусім аднапраўнымі, але адна падпарадкавана другой. Галоўнай і эвалюцыйна напраўляючай ёсьць ідэя Бога. Толькі „пазнаўшы Бога і сьціннага“ (Ін. V, 20) і ўмацаваўшысі ў пачуцьці неабгранічаннай любві да Яго—„узлюбіўшы Яго ўсім сэрцам сваім, і ўсей душой сваею, і ўсім разуменьнем сваім“ (Мт. XXII, 37), — чалавек можаць і павінен зьвярнуцца да „блізкіх сваіх“, каб „узьлюбіць іх, як самаго сябе“. Але за ўвесь час гістарычнага істнаваньня, хрысьціянства толькі пры сьв. апосталах і іх бліжэйшых наступніках, — пастырах і вучыцелях Царквы II і III в.в.,—гэтыя дзьве ідэі знаходзіліся паміжсобку ў поўнай гармоніі: любоў да Бога не зьвязывалася з аддаленьнем ад людзей і наадварот.

Пачынаючы ўжо з IV веку, чалавечаская слабасьць і вузкасьць аказаліся ўсё больш і больш нyздольнымі умясціць у адно гэтыя „дзьве запаведзі“,—на каторых „стаіць увесь закон і прарокі“ (Мт. XII, 40).—пакуль, наастатак, з напрамкаў хрысьціянства бадай што зусім была вылучана сфэра чалавечаскіх адносінаў, што заўважаецца яшчэ і цяпер у Праваслаўна-Хрысьціянскай Царкве, схіліўшайся да аскетызму і грамадзка-палітычнага індіфэрэнтызму.

Першыя вякі хрысьціянства былі часам дзейнасьці ў Хрыстовай Царкве багатых дароў Сьвятога Духа. Дух Сьвяты „во огненых языцех“ сыйшоўшы на апосталоў, напоўніў іх „ўсей паўнатой Божыей“ (Еф. III, 14) і іншых хрысьціянь, „сьведчучы духу іх, што яны дзеці Божыя“ (Рым. VIII, 16), а паміжсобку „браты па Госпаду“ (Філ. I. 14). „Навучоныя благадацьцю Божыею“ (Тіт. II, 11, 12), першыя пасьлядоўцы Хрыста Спасіцеля ад малога да вялікага „пазналі Безначальнага“ (Ін. II, 14) і „знали ўсё, што патрэбна для жыцьця цяперашняга і будучага“. (Тім. IV, 8). Зналі, што Бог ёсьць любоў і што толькі пребываючы у любві (да блізкіх сваіх) „прэбываць у Бога і Бог у ім“ (Ін. IV, 8) а калі не, дык ён—„ненавідзячы брата свайго“ і выракаюшчыйся зносінаў з ім, ня ёсьць ад Бога, прэбываець у сьмерці“ і аднолькова з сатаной „ёсьць чалавекаўбійца“. Пазналі яны, што няможаць „прыбываць любоў Божыя на тым, хто маець багацьце, але бачучы брата свайго ў нэндзы, зачыняець ад яго сэрца сваё“ (1 Ін. III, 17),—„не даець яму патрэбнага для цела“. (Як. II, 15). Адным словам міласэрднасьць, міласьць і толькі адна яна і лягла ў аснову аднасінаў першапачатковай хрысьціянскай царквы да задач грамадзкага жыцьця.

Навучая людзей „царству нябеснаму“ (Мт. XIII, 52) „укладываючы ў сэрцы іх Закон Божы (Евр. X, 16), павялічываючы душэўны скарб іх (Мт. XIII, 52) тым, „што толькі ісьцінна, чыста, што справядліва, што прыемна, што толькі дабрачыннасьць і пахвала“ (Філ. IV, 8)—адным словам, узгадоўваючы ў вучнях сваіх вышэйшыя патрэбнасьці духа, сьв. апосталы ў той самы час не пакідалі без задаваленьня і іх ніжэйшыя цялесныя патрэбы. Клічучы сваіх пасьлядоўцаў ісьці за расьпятым Хрыстом“, (Гал. II, 19) к „памышленьню аб горным“ (Кол. III, 2) да „ўважаньня за сьмецьцё (Філ. III. 8) усяго тленнага зямнога,—апосталы зналі, што адрачэньне ад мірскога багацьця, каб мець душэўную вартасьць, павінна быць вольнай справай веруючых. Апрача таго, задавальняючы цялесныя патрэбы сваіх пасьлядоўцаў,—кормячы галодных, надзеваючы голых, даючы прытулак для бяздомных, вылечываючы хворых і г. д., сьв. апосталы толькі „выконывалі загаданае ім“ (Лук. XVII, 10) Госпадам Хрыстом, Каторы загадаў ім (апосталам) не адпускаць ад сябе людзей, наагул, за чым бы то ня было, ў асобку—„даваць ім есьці“ (Мт. XIV, 16).

Штош рабілі убогія, серабра і золата нямаючыя, усё радзі Хрыста пакінуўшыя апосталы, для абагачэньня многіх, — дзеля служэньня задачам грамадзкага жыцьця, цераз задаваленьне нязлічаных белаў сваіх вучняў? Ці не зварачываліся яны к царам і валадарам з просьбай націснуць сілаю даджанага ім аружжа на заможныя грамадзкія клясы, каб тыя, захапіўшыя ў свае рукі ўладу і багацьце сьвету, падзяліліся ва імя вышэйшай праўды, лішкамі свайго багацьця з абрабаванымі імі рабамі-беднякамі? Ці можа быць слугі Хрыста, дзеля дасяганьня гэтай самай мэты, выбралі доўгі шлях беспасрэднага маральнага перавыховываньня палітычна і экономічна моцных грамадзкіх элемэнтаў, пераконываючы гэтым часам „меншых братоў Хрыста“ (Мт. XIV, 40) цярпліва без скаргі прападаць ад голаду, хваробы і інш.?

Наастатак, ці не застанавіліся апосталы, як на „адзіным спосабе“ для ратаваньня

„бедных сьвету" (Як. II, 5) ад уціску і рабства на змаганьні апошніх з заможнымі клясамі, заказываючы ім бедакам ня йсьці на работу да багатых, не нанімацца за малую плату, ад пераходу на бок капіталістых?

Не! І ў змаганьні за жыцьцё, як і ўсякім другім змаганьні апосталы паднялі „вайну ня процiў крыві і плоці (клясовую, або нацыянальную), але... процiў духоў злобы паднябесных" (Еф. VI, 12), праводзючы ў жыцьцё сьвету не цярпімае для іх начала Бажэсьцьвеннай любві, — перекановываючы сваіх пасьлядоўцаў „да крыві змагацца процiў грэху" (Евр. XII, 4)—эгаізму, самалюбства. Дзеля задаваленьня крычачых патрэб народных, апосталы сталі на шлях пасярэдніцтва паміж беднымі і багатымі хрысьціянамі, каторы шлях быў заказан ім Спасіцелям.

Гасподзь Ісус Хрыстос прапануючы апосталам насыціць у пустыне тысячы галодданых, не немагчымага чаго небудзь вымагаў ад іх, не перавышаючае іх прыродныя сілы, не сатварэньня чуда—напрыкл, манны з неба або ператварэньня каменьня на хлеб,—а хацеў толькі пасярэдніцтва іх паміж маючымі і патрабуючымі, хацеў, каб пры спатканьні з грамадзкай бядой, яны бралі лішніе (і навэт усё) у маючых і давалі яго нямаючым, бралі нічуць ня грэбываючы драбніцай атрыманага, не пытаючыся: „што значыць гэта на стольки?" (Ін. VI, 9). Але перадаючы „Бажэсьцьвеннай благадаці дапоўніць невыстарчаючае", і веруючы, што яна, — усемагутная,—пацоўніць недахваткі, калі толькі, папершым. дабыта яно будзець шляхам вольнай перадачы маючымі цераз пасрэдніцтва слугаў Хрыста сваей маемасьці на карысьць нямаючых,—па пачуцьцю брацкай любві да апошніх і калі, па другім, яно (малое) раней раздачы бедным будзець прынасіцца ў ахвяру Госпаду Ісусу.

Што гэткія думкі вынесьлі апосталы з абставін чудеснага накармленія Хрыстом народаў, аб гэтым сьведчыць уся іх далейшая царкоўна-грамадзкая праца. Закладаньне на землі Царства Божыя апосталы началі з тых, каго і Спасіцель завець к сабе першымі—з „бедных міра" (Ін II, 5), з „працуючых і уцяжараных" (Мт. XI, 18), якія менш захоплены матэрыяльным дабром і дзеля гэтага болей здатных пабудаваць сваё жыцьцё на евангельскіх падставах, мала чым, як сказаць, рызыкуючы дзеля гэтага. Зразумела, што не валадаючы багацьцем двумя, пяцьцю талантамі,—кожны з беднякоў меў адзін талант ці часьцінку яго: хто дынар, хто драхму, хто лепту ўдавы, хто кусок хлеба, хто другую адзежу, а хто і толькі кубак сьцюдзёнай вады" (Мт. X, 42). Усё гэта, ўсе гэтыя драбніцы былі пушчаны веруючымі цераз пасярэднівтва апосталаў у абарот—адданы бедным для атрыманьня ад іх працэнтаў у постаці разьвіцьця паміж людзьмі агульна чалавечаскай салідарнасьці, сьвядомасьці брацтва у Хрысьце і пачуцьця любві аднаго к другому і к Богу. І як сьведчыць Сьв. Дзеяпісаньне,— „у множства веруючых было адно сэрца і адна душа І ніхто нічога з сваіх маёнткаў не называў сваім, але ўсё у іх было уменсна" (Дзеян. IV, 32). Атрыманая шлахам пасярэдніцтва міласьціна, адразу дала апосталам магчымасьць арганізаваць для бедных „вячэры любві" — агапы.

Вышэйазначаных працэнтаў, дабытых апосталамі па драбніцы таланта бедакоў,—развіцьця паміж людзьмі згоды, брацтва ў Хрысьце і пачуцьця любві адзін да другога і да Бога,—вялікіх гэтых і пажаданых кожнаму сэрцу чалавечаскаму працэнтаў, як нясучых з сабой спакой душэўны, заспакаеньне сумленьня і „радасьці во Сьвятым Духу" (Рым. XIV, 17) зажадалі і вялікія багачы—двух талантныя і пяціталантныя, — каторыя паварашыліся прысьці да апосталаў і укласьці свае капіталы ў распачатую імі гэткім парадкам—на падставе праўды Божыей, ціха і любоўна—справу грамадзкага служэньня блізкаму. „Усе" (багатыя веруючыя) апавядаець сьв. Дзеяпісацель, „каторыя валадалі зямлёй або дамамі, прадавалі іх, прынасілі цану прададжанага і клалі да ног" апосталаў (Дз. IV 34—35). Усё павялічываючыйся наплыў ахвяраў, даў магчымасьць апосталам арганізаваць новаю справу ў мэтах забэспячэньня задаваленьня ніжэйшых цялесных патрэб веруючых: яны заснавалі при Ерусалімскай царкве фонд, з каторага „кожнаму (хрысьціяніну) давалася ўсё, хто ў чым меў патрэбу" (Дз. IV, 35). Толькі пасьля гэтага,—забяспечыўшы задаваленьня матэрыяльных патрэб веруючых,—апосталы ахвяравалі сябе выключна „прыбываньню ў малітве і ў служэньні слова" (Дз. VI, 4), даручыўшы заботу аб сталах і заведываньне царкоўным фондам сямі пэўным, напоўненым Духам Сьвятым і мудрасьці, дыяканам.

Адправіўшыся пасьля з пропаведзю Евангельля ў другія гарады і староны, апосталы і там заўсёды прыбегалі к зьбіраньню міластынькі, як да ўсемагутнага Хрыстовага срэдства для вызваленьня хрысьціянь з іх цяжкога матэрiяльнага становішча.

З пракладзенай сьв. апосталамі дарогі пасярэдніцтва паміж заможнымі і беднымі ў справах служэньня задачам грамадзкага жыцьця, адносна лоўга не схадзілі з яе бліжэйшыя наступнікі—пастыры і вучыцелі II і III вякоў. Яны ўсюды, па прыкладу апосталаў, арганізовывалі ў сябе умесныя касы, царкоўныя фонды, Бажэсьцьвенныя скарбы, куды „багацеючы ў Бога" (Лук. XII, 21) хрысьціяне цераз пасярэдніцтва пастыроў Царквы нясьлі сваю міластыньку для асьвяшчэньня яе там „Словам Божыем і малітваю" (Тім. IV. 5) і адтуль ужо раздавалася яна патрабуючым, як уласнасьць Божыя.

Вольныя ад экономічнага цяжару і рабства, з'едланыя з Хрыстом і едзін з другім ў „адно цела і ў адзін дух пры дапамозе ўсякіх узаемна скрапляючых зьвязей" (Еф. IV, 4, 16)—як вышэйшых духоўных, так і ніжэйшых матэрыяльных,—хрысьціяне адважна спатыкалі „крываву ярасьць" (Іер. XII, 38) іскаўшых для іх пагібелі іюдзеяў і язычнікаў. І зразумеў стары сьвет шчо абазначаець сказанае ва імя Бога „міласьці хачу" (Ос. VI, 6), што азначаець хрысьціянская міластыня.

І зразумеўшы гэта, ўсякія грамадзкія:—філёзофы, літэратары, вучоныя, адвакаты, судзі і інш., думаўшыя абшчасьлівіць чалавечаства сваей навукай і дзейнасьцю „па стыхіям сьвету гэтага, а не па Хрысту" (Кол. II, 8) - ўсе яны з жахам убачылі, што хрысьціянства рухаець самыя падставы іхнай дзейнасьці і творчаства. Перад імі з ракавой неабходнасьцю паўстала альтэрнатыва: або зьмірыцца перад Хрыстом расьпятым..., „Божыей сілаю і Божыей прамудрасьцею" (1 Кор. I, 23, 24) і паслужыць яму „кажды сваей здольнасьцю ад Бога" (VII, 7), або, наадварот, выступіць на абарону сваіх пераконаньняў, спадзяваньняў, наагул усей сваей анці-хрысьціянскай культуры.

Большасьць грамадзкіх дзеячоў выбралі другое—змаганьне з Хрыстом,—і калі не ляглі яны ў няроўнай спрэчцы, калі і да сягоньняшняга дня ваююць з Ім, дык толькі ад таго, што Сьв. Праваслаўная Царква Яго, змушаная гістарычным роковым працэсам стаць на абарону і умацаваньня галоўнейшай і эвалюцыйна вызначаючай ідэі хрысьціянства—дэі Бога, „да часу" пакінуўшы другую ідэю яго—ідэю чалавечаства, сыйшла з прызначанай ей Госпадам Хрыстом дарогі пасярэдніцтва паміж хрысьціянамі ў адносінах задач іх грамадзкага жыцьця, — скіравалася ў аскетызм і ў грамадзка-палітычны індэферэнтызм.

Гэты моноідэізм—аднабокае служэньне Богу пачалося ў гісторыі Царквы ў IV веку, калі на ўвесь хрысьціянскі сьвет спусьцілася цьма багахульнай ерэтычнай навукі. Змаганьне з Богапраціўнымі навукамі, з ерасямі і змусіла Хрыстову Царкву зьвярнуць усю сваю увагу на выпрацаваньне хрысьціянскай догмы, на раскрыцьце ідэі Бога. З прычын ўсходніх ерасей была прыведзена ў строгую доктрыну навука Царквы аб істоце Бога, Тройцы і Богачелавека; цыкл гэтага вялізарнага розьвітку людзкой думкі, прасьвячоны благадацьцю зверху, закончыўся перад адлучэньнем Рыму"*).

Гэта ўнутраная рэлігійная і чыста фармальная засада наступнай (за першымі трыма стагодзямі) хрысьціянства вызначыла сабой характар усяго далейшага істнаваньня Праваслаўнай Царквы, — ім нна, як чыста ўнутранага служэньня Богу ў іспаведаньні догмы, містычным сьветаглядзе і аскетызма. Цяпер ідэя хрысьціянства вузеець, пакарачаецца ў сваім значэньні і зьмесьце. Цяпер „алчушчая і жаждушчая праўды" душа хрысьціяніна скіравана да аднаго толькі Бога. Дзеля жыцьця ў Ім „дзеля свайго спасеньня" (Філ. II, 12), чалавек пакідаець сьвет і аддаляецца у келью, затвор, манастыр і пустыню, каб там пастом, малітвай і працай удасканаліць свае духоўныя вочы і слух і ўвідзець ў небе Бога, упіцца гукамі нябес, — адным словам дасягнуць беспасрэдняй стычнасьці з вышэйшым духоўным мірам.

Хрысьціянскія законнікі і аскеты цяпер „настаўнікі манахаў і сабяседнікі ангелаў", але нічуць не царкоўна-грамадзкія дзеячы, зацікаўленыя ў устройстве зямнога добрабыту чалавека, аб задаваленьні неабходных патрэб „меншых братоў Хрыста". Адзін з вялікіх падвіжнікаў—прэп. Ісак Сірын, кажаць: „Хто амярцьвеў сэрцам для сваіх блізкіх, для таго мёртвым стаў дыявал". Або: „абавязкі любві да блізкага ёсьць справа людзей мірскіх і манахаў недасканальных, адшэльнікі ж прыносяць Хрысту чыстую і непарочную ахвяру памыслаў*).

Другі падвіжнік авва Хведар, кажаць яшчэ ярчэй: „для таго каб быць манахам, нада едсечь ад сябе жаласьць". Авва Алоні даказываець што, „калі чалавек ня скажаць у сэрцы сваім: на сьвеце я адзін ды Бог, дык ён ня знайдзець спакою". Праўда, тыя самыя аскеты кажуть часам і другое. Напр. прэп Ісак даказываець, што „без любві да блізкага розум няможаць прасьвяшчацца Бажэсьцьвеннай бяседай і Бажэсьцьвеннай любоўю", і што толькі ў тым выпадку, калі з малітвай злучаецца міласьціня, душа увідзіць сьвет ісьціны.

Але самое сланяньне Хрысьціянскіх аскетаў у прызнаньні за любовью да людзей неабходнага варунка для спасеньне яскрава сьведчыць аб тым, што любоў гэта прызнавалася імі дабрачыннасьцю як бы толькі афіцыяльна, у запраўднасьці ж настаяшчай дабрачыннасьцю прызнавалася змаганьне з целам, з ніжэйшымі патрэбамі ў імя вышэйшых. Заглушыўшы ў сабе элемэнтарныя патрэбы, караючы аскетычнай практыкай бунтуючую плоць,—словам прагнучы на вышыню вышэй нармальнага жыцьця, хрысьціянскія аскеты вымагалі таго самага ад другіх людзей.

Пастаноўленыя ў галаве ўпраўленьня Сьв. Праваслаўнай Царквой, аскеты выкінулі з яе веданьня задачы грамадзкага жыцьця, прапаведуючы ў адносінах да іх, як ка-

*) Современные религиозные и церковно-общественные вопросы"... стр. 121, ст. Ю. Ө. Самаранина „Православная Церковь і богословіе".

*) В Экземплярскій „Евангеліе и общественная жизнь".

жаць Уладзімір Салавьёў „сляпую магомэтанскую пакорнасьць“. Напрыкл., яны сваім „неспраціўленьнем злу“ грамадзкага жыцьця як бы кажуць людзям, што багатыя павінны „заховываць і павялічываць сваю маемасьць, як „дар Божы“, а бедныя павінны „хацець быць беднымі“ і „заховываць унутраную незалежнасьць духа“, дзеля таго, што багацьце наша на небе, або „бачучы пакрыўджаных на сьвеце, кажуць ім, што гэта воля Божыя, а крыўдзіцеля—што ўлада іх ад Бога; або, бачучы гора чалавека, пакрыўджанага людзьмі і узаконеную няпраўду жыцьця, — кажуць, што гэта воля Божыя і закон міра, а Царква тут ні пры чым**).

Такое „непраціўленьне злу“ (Мт. V, 39), перанесенае праваслаўна-хрысьціянскімі аскетамі з асабістага свайго жыцьця ў сфэру грамадзкіх адносінаў, даець тут не жаданы „Мір Божы, але неўстройства“ (1 Кор. XIV, 33). З бушуючага мора жыцьця, якога ня ўцішыць далёка стаячая ад яго Сьв. Праваслаўнай Царкве, пастаяна „выходзяць... худыя надта дурныя на выгляд і тошчыя целам“ (Быт XLI, 19) фараоновы каровы, каторыя жадна „пажыраюць... кароў тучных і прыгожых на выгляд“. Без перастанку з'яўляюцца сярод людзей худыя надта дурныя грамадзкія дзеячы і дзялкі,—кулакі, міраеды, абдзіралы, хціўыя гандлёўшчыкі і інш., якія захваціўшы ў свае рукі ўсе дабро сьвету, аднак ні наколькі не палепшылі сваё жыцьцё, нічога да яго не прыбавілі, але гінуць ад абжорства перазадаваленьня так сама, як і абкрадзеныя імі меншыя браты Хрыста гінуць ад адваротнай прычыны —ад голаду, незадаваленьня неабходных патрэб сваіх.

Навет бязмоўныя стварэньні, навет бяздушныя расьліны могуць „стаць на суд з людзкой грамадой і засудзіць яе (Мт. XII, 41): птушкі нябесныя без працы знаходзюць для сябе ежу, а людзі, каторыя і сеюць і жнуць і сабіраюць у гумно „ня маюць дзеннага пражыўленьня“ (Як. II,е15),—надта часта толькі „жадаюць пад'есьці крошкамі зваліўшыміся пад стол багатыроў“ і „лісіцы маюць норы“ (Мт. VIII, 20), „птушка знаходзіць сабе дом і галуб гняздо сабе, у якім выводзіць птушанятак сваїх“ (Пс. 83,4), а людзі надта часта ня маюць дзе палажыць галаву; палявыя лілеі, каторыя „не працуюць і не прадуць“, але і не абкрадаюць адна другой, а аднолькова карыстаюцца вільгацьцю зямлі, сьветам і цяплом сонца, прыбіраюцца так, „Як і Саламон у ва ўсей сваей славе не ўбіраўся“ (Мт. VI 28—29), людзі ж надта часта ня маюць чым прыкрыць галавы сваей, так што сабакі, праходзячы, ліжуць струпы іх“ і г. д.

І дзякуючы гэтаму, па першым—„пакорныя даджанаму Госпадам уставу“ усякае дыханьне і твар пяюць і ўсхваляюць Яго“,— Госпаду, а людзі „плачуць і скрыгаюць зубамі“ і праклінаюць жыцьцё, хоць яно а ні-ўчым і нічым не вінавата; па другім,—людзі, не атрымычаючы ад Сьв. Праваслаўнай Царквы задаваленьня неабходных патрэбнасьцяў траціць нярэдка цярплівасьць, упадаюць ўадчайнасьць, смутак і бягуць з Яе ўлоньня—бягуць у жахлівым ліку і з няменшай жахлівай лёгкасьцю, бягуць—хто на нівы чужога, каб знайсьці там большы голад, большую нэндзу, —хто зусім выракшыся веры у Хрыста—на шырокую праступную дарогу злачынкаў (зладзейства, рабунку, забойства) забастовак, пагромаў і рэвалюцый, каб стаць на ей (дарозе) здабычай, надзетых у авечча скуры ваўкоў.

Гэтак, адказ аскетаў пастыроў Праваслаўнай Царквы ад служэньня задачам грамадзкага жыцьця—даець тут — у грамадзе людзей,—ня „праўду і мір радасьць у Духу Сьвятым“ (Рым. XIV, 17), але проста вядзець к панаваньню на сьвеце д'явальскай маны, спрэчак і смутку—словам, да перамогі „варот пекла“ (Мт. XVI, 18) і к „зьністажэньню справы Божыей“ (Рым. XIV, 20).

**) В. Экземплярскій, той самы твор стр. 31.

(*Канец будзець*).

С. СВІСТУН.

# ЕВАНГЕЛЬЛЕ

Гэта кніга, як родная матка,
Вочы асушыць ад слёз;
Ды, як цёплая добрая хатка,
Сэрца сагрэець ў мароз.

У жыцьці, як ў прыродзе так сама,
Радасьць, што сонца зірнець;
Ды зноў смутак, як чорная пляма,
На сэрца гарою лягнець.

У кнізе гэтай уцеха знайдзецца
У горы, у нядоле, у нудзе...
Гэтаю кнігай, парада даецца
У цяжкай гаротнай бядзе.

Гэтая кніга на ўсе запытаньня
Люба адкажаць адраз
Ды ў часе якога шуканьня
Сьцежку пакажаць якраз.

Г. Л.

# Гальгофа

(З Зм. Бядулі).

Там стогны матак—радзіцеляк над магіламі сыноў раздаюцца...

Там горкі плач сівенькага дзеда над зруйнаваным кутком—родным бацькаўскім кутком, нясецца навакола...

А там зноў па вялікіх абшарах Беларускае зямлі варушацца грамадамі людзі.

У вялікай пакуце людзі зьліліся у адно—адно серца, адну душу. Нібы зачарожаныя, поўзаюць яны у холадзе, у голадзе па зямлі...

Іх дарога—атругнае, бязмежнае няшчасьце. Забіваюць іх, яны забіваюць.

Пад туманным небам лунаюць голымя жаху і пяюцца песьні крыві і агню—песьні волава, жалеза.

* * *

І пытаюцца грамады ў сэрцу сваім:—Дзе нашы прарокі? Дзе нашы збавіцелі? Дзе нашы вучыцелі шчасьлівага, згоднага жыцьця?

І навакола нясуцца шэпты ..

Нібы прадбурны шум на моры, нібы гул паўночнага ветру, паміж галін шчырбору высокага, нясуцца шэпты: хвалямі плывуць у паветры, рвуцца з запечаных вустаў чалавечых:

— Хрыстос ідзе. Хрыстос ідзе!..

Ен паказаўся людзям... Голас высьпеў ў грудзях, вызваліўся, падымаецца ў выш, як гімн палягчэньня, як звановы зык шчырай малітвы ўсясьветнай...

Хрыстос ідзе...

Усе бягуць да Яго, усе... Ідзе Спасіцель людзкі па зямлі ў вопратцы белай... У вачох добрых, праменістых гэтулькі жалю, гэтулькі болю...

Смутак усей зямлі ў іх адбіваецца. Пакрыўджанасьць і мука спавілі Яго душу...

І кажуць грамады ў серцу сваім:

— Мы Яго распіналі заўсёды.— Мы нясём Яму горкі трунак пакуты. — Уся мэта жыцьця нашага прыцьвіковываць Яго да крыжу. Па ўсей зямлі людзі Яму Галгофу робяць...

* * *

Брат забівае брата. Выганяюць з родных кутоў старых і малых. Апаганіваюць матак разам з іх дочкамі. Рабуюць, грабяць потам запрацаваныя пажыткі. Па цалых багатых гарадох засталіся адны каменьня і магільныя курганы.

— О, няшчасныя дзеці мае, вы бяз душы бяз сэрца! — Вы асьлеплі, аглохлі, здурнелі!..

* * *

Белыя адзежы Яго робюцца зусім якбы чырвонымі ад крыві.

Як шэпты плачучых ліраў на лозах вавілонскіх, льецца Яго голас.

— Сеяў Я шчырыя словы, як зерняты на голых каменьнях. На мой кліч міласьці вдазваўся глухі вокліч пустыні. Стогнам балючым Маім ўторыць сьмех нячысьцікаў.

Голас Яго слабее. Вочы сумныя ў даль пазіраюць.

— Я вам скажу цяпер толькі, што думы душы Маей рздзіліся разам з сонейкам і будуць жыць патуль, пакуль неба на зямлю ня ўпадзе. Маё сьветлае вучэньне лунае у зорках паўночных, у пахучых кветках жыватворнай зямлі, у стромкіх хвалях марскіх і ў малітвах жаўранка ў паветры залацістым.

— Нібы тыя каменьня дзікага поля, ня хочуце Мяне зразумець. Нібы тыя бяздушныя, дуплістыя травы хіляецеся вы ўсе бакі, нямаючы ніводнай апоры.

Ен выстаўляе рукі ўпярод, пазіраючы на неба:

— Дакуль так будзе, Ойча Нябесны? Дакуль?

— Ні пакідай Ты іх так, не забудзь... Яны творы рук Тва'х...

— Я гатоў за іх вечна пакутаваць, да апошняга дня зямлі, бо яны няшчасныя, бяздольныя, нясьвядомыя...

* * *

І так Хрыстос заўсёды ідзе на нашу зямную Галгофу.

---

С. СЬВІСТУН.

## ЦЕНЬ

**Памяці Ф. Скарыны.**

Праз шэрасьць дзён, праз цэмры нетра
Міргаець цень старых вякоў;
І веець буйна духам ветра
Ад тых падзей і тых часоў.

Той дух паможа нэндзу схлостаць
Уцішыць стогн, душэўны крык,
Бо гэта цень—жывая постаць,
Жывая постаць—ясны лік!

Бо гэта цень на напярэдзе,
Усьцяж, кладзе нам тыршы шлях,
Ды сееце зерне дабрай веды
На зноў аброблянных палях —

Ды ўпрост правадзіць за граніцу
Праз ўсе загроды і барьер,
Аж ў царства сьветлага сталіцу,
Дзе вольнасьць, роўнасьць ўсім бяз мер!

# ЦАРКОЎНАЕ ЖЫЦЬЦЕ

### Аб намесьніку Маскоўскага Патрыяршага Прэстолу.

Расейская эміґранская прэса апублікавала пасланіе, падпісанае 40 мітрапалітамі, архіепіскапамі і епіскапамі Расейскай Праваслаўнай Царквы, на чале з Сергіем, Мітрапалітам Ніжагародзкім (быўш. Фінляндзкім, а пазьней Уладзімірскім). Гэта пасланіе кажаць аб сьмерці сьв. Патрыярха Ціхана і аб пакіненым ім перадсьмяротным загадзе, напісаным 7 І. 1925 г. Пасланіе сьведчыць, што точны зьмест патрыяршага загаду гэткі: „на выпадак нашай сьмерці, нашы патрыяршыя правы і абавязкі „да законнага выбару новага патрыярха, часова перадаём Высокапраасьвяшчэнейшаму Мітрапаліту Кірылу. На выпадак немагчымасьці па якім небудзь прычынам уступіць яму у выконываньне абазначаных правоў і абавязкаў, яны пераходзяць Высокапраасьвяшчэннейшаму Мітрапаліту Агафангелу; каліж і гэтаму мітрапаліту ня будзе магчымасьці здзейсьніць гэтага, дык нашы патрыяршыя правы і абавязкі пераходзяць Высокапраасьвяшчэнейшаму Петру, Мітрапаліту Круціцкаму“. У канцы пасланьне архірэеў кажаць, што па тэй прычыне: „што ні Мітрапаліт Кірыл, ні Мітрапаліт Агафангел не знаходзяцца цяпер у Маскве і ня маюць магчымасьці ўзяць на сябе, узложаных на іх абавязкаў, мы, архіпастыры, прызнаём, што Высокапраасьвяшчэнейшы Мітрапаліт Петр ня можаць ўхіліцца ад даннага яму паслушэнства, і дзеля выкананьня волі спачыўшага Патрыярха, павінен прыняць абавязкі намесьніка патрыяршага прэстолу.

Ц. Б. П.

### Проціў Маскоўскага Царкоўнага Сабору.

Старшыня эміґранскага архірэйскага Сыноду Расейскай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліт Антоні зьвярнуўся з акружным пасланіем да ўсіх праваслаўных іерархаў і сьвяшчэнаслужыцеляў з прычыны скліканага цяпер у Маскве Царкоўнага Сабору. У сваім пасланьні Мітрапаліт Антоні заклікаець усё праваслаўнае духавенства ня лічыць маскоўскае „сборище“ за царкоўны сабор.

Ц. Б. П.

### Перамены у каталіцкай іерархіі у Польшчы.

У зьвязку з падпісаньнем конкордату паміж Польшчай і Ватыканам (Папам Рымскім), як паведамляюць польскія газеты, маюць адбыцца перамены ў каталіцкай іерархіі. Віленская і Кракоўская біскупскія катэдры маюць быць пераменены на арцыбіскупскія і апрача гэтага адкрываюцца тры новыя біскупскія катэдры: у Пінску, Чэнстахове і Катовіцах. Адначасна адбудуцца некаторыя перамены ў асабістым складзе каталіцкага епіскапату ў Польшчы. Кракоўскім арцыбіскупам будзець назначан цяперашні князь-біскуп Сапега. Віленскім арцыбіскупам будзе назначан або арцыбіскуп Ропп, або арцыбіскуп Цэпляк, які цяпер знаходзіцца ў Рыме. Адзываюцца ў Рым біскупы: Матулевіч з Вільні і Дубоўскі з Луцку. На катэдру каталіцкага палескага біскупа ў Пінску назначаецца быўшы Менскі біскуп Лазінскі, пражываючы цяпер у Навагрудку. Валынскую катэдру ў Луцку займець цяперашні вікарны біскуп Годлеўскі, новую Чэнстахоўскую—адзін з вікарных калішскай эпархіі. На катэдру ў Катавіцах назначаецца або біскуп Бандурскі або біскуп Шэленжок. Магчымы так сама перамены на біскупскай Паморскай катэдры, якую цяпер займаець біскуп Розэнтрэттэр.

### Конфлік паміж Чэхаславакіей і Ватыканам.

Паміж Чэхаславакіей і Ватыканам (папскім прэстолам) неспадзевана стаўся конфлікт. Конфлікт выклікан тым, што Чэхаславацкі урад афіцыяльна узяў удзел у сьвяткаваньні угодкаў 500-лецьця сьмерці Івана Гуса, прызнанага каталіцкай царквой ерэцікам (богаадступнікам). Па пастанове Констанцкага Сабору у 1425 годзе Іван Гус быў спалёны жывым на агні. Чэхі лічуць Гуса сваім нацыянальным героям і змагальнікам за незалежнасьць чэшскага гаспадарства, і сваю культуру. Чэхі надта урачыста адсьвяткавалі дзень сьмерці Гуса. Папскі нунцыюш (пасланік) у Чэхаславакіі, Монсіньор Мармаджы убачыў у гэтай урачыстасьці абразу для каталіцтва і заявіў пратэст, а пасьля, па адтрыманьні загаду ад Папы, пакінуў сталіцу Чэхаславаччыны Прагу і выехаў у Рым.

### Угодкі Нікейскага Сабору у Рыма-Каталіцкай Царкве.

У гэтым годзе, як Праваслаўная, так і Рыма-Каталіцкая Царква, сьвяткавалі 1600 лецьця Нікейскага Сабору. Папа Пій XI даручыў арганізацыю сьвяткаваньня угодкаў Першага Усяленскага Сабору кардыналу Таччы, сэкратару Конгрэгацыі па справам Усходніх Царквоў. У своім пісьме на імя кардынала Таччы, Папа даручаець яму арганізовываць адпаведныя урачыстасьці, зазначаючы, што гэта справа даручаецца тэй асобе, якая ад імя Папы ведаець справамі Усходніх Царквоў і адначасна зазначаець кардыналу што сама урачыстасьць і звязаныя з ей літэратурныя выданьня павінны напомніць усім, што ўжо ў эпоху Першага Усяленскага Сабору ўсей Царквой нібы прызнавалася верхавенства Рымскага Першасьвяшчэніка. Дзеля гэтай мэты павінны быць скіраваны асоб-

ныя царкоўныя і сьвецкія урачыстасьці і гэтага павінны даказываць у спэцыяльных творах, запрошанымі для гэтай мэты гісторыкамі. На канцы Папа выказываець, што урачыстасьць арганізуецца з мэтай панушканьня народаў Усходу, адхіляючыхся ад Рымскай Царквы,— з'еднацца з імі ў Веры.

### Справа Амэрыканскай Праваслаунай Царквы

Па паведамленьнях з Нью-Іорку у Праваслаўным Сабору на 67 вуліцы адбыўся сабор, на якім былі прысутны 70 епіскапаў і сьвяшчэнікаў Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцэ. Сабор пацьвярдзіў пастанову леташняга Сабору ў Дэйтройце аб абвешчаньні Аўтокефалі Праваслаўнай Царквы у Амэрыцэ. Галавой Царквы прызнан Мітрапаліт Платон.

Спрэчка паміж Мітрапалітам Платонам і карпата-рускім епіскапам Філіпоўскім за валаданьне мітраполічым домам і права распараджэньне маетасьцю Праваслаўнай Царквы перайшло ў новую форму. Вярхоўны суд аканчальна вырашыў справу на карысьць Мітрапаліта Платона, засудзіўшы адначасна епіскапа Філіпоўскага на 30 дней арэшту за зьнявагу суда. Пры перадачы Сабору Мітрапаліту Платону, адбыўся іэноў скандал паміж прыхільнікамі Мітрапаліта Платона і паліцыей з аднаго боку, а з другога—прыхільнікамі епіскапа Філіпоўскага. Апошнія запёрліся ў Саборы і паліцыя змушана была сілай адчыняць дзьверы Сабору.

### Баптысты у С. С. С. Р.

Па паведамленьні газэты „Возрожденіе", за апошнія часы у С. С. С. Р. асабліва актыўна сталі працаваць баптысты. Адносіны Савецкай улады да баптыстаў болей прыхільны чым да Праваслаўнай Царквы. Газэты зазначаюць, што на адным з апошніх з'ездаў баптыстаў пастаноўлена падтрымовываць усей сілай Савецкую уладу.

Ц. Б. П.

## Аб чым пішуць

## Дзесяцелецьце Беларускай школы.

13 гэтага лістапада Віленскія Беларускія культурныя установы і грамадзкія арганізацыі сьвяткавалі 10 гадавіна легальнага існаваньня беларускай школы. Ініцыятыва сьвяткаваньня пахадзіла ад Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады. З прычыны гэтых угодкаў, „Жыцьцё Беларуса" у № 20, пад вышэйпададзеным нагалоўкам пішаць:

„Спаміж юбілеяў, якія беларускі народ сьвяткуе ў сёлетнім годзе, бадай ці не найважнейшы прыпадае на дзень трынаццатага лістапада.

Гэта—сьвята беларускае школы—дзесятыя ўгодкі закладзінаў тут, у Вільні, ураз-жа пасьля выхаду расейскіх войск, першае пачаткавае школы з беларускай выкладовай мовай.

Агаварываемся: першае яўнае беларускае школы, хоць і адчыненае бяз ніякіх дазволаў з боку нямецкае акупацыйнае ўлады, якая была пастаўлена проста перад стаўшымся фактам. Бо-ж нелегальныя паўставалі неаднакроць раней—яшчэ пад расейскім панаваньнем, хаця і нядоўга ім удавалася ўкрывацца ад вока расейскае паліцыі...

Як і блізу ў-ва ўсіх беларускіх творчых пачынаньнях, пачын у гэтай справе належаў таму, каго в поўным правам можна назваць Бацькам сучаснага адраджэнскага руху: Івану Луцкевічу, так перадчасна зышоўшаму ў магілу. А побач з гэтым імем нельга не ўспамянуць і другога: імені Алёзіі з Пашкевічаў Кейрысовай, вядомай шырока пад прозьвішчам „Цёткі", якая першая—з усей сваей гарачай энэргіяй—узялася за правядзеньне ў жыцьцё кінутай Ів. Луцкевічам думкі.

Ужо ў кастрычніку 1915 году Беларускі Камітэт пом. ахвярам вайны, якому ў першыя гады нямецкае акупацыі суджана было іграць ролю як быццам галоўнага беларускаго нацыянальнага цэнтру Заходняе Беларусі, пастанавіў прыступіць да арганізацыі беларускіх пачаткавых школ. У мысьль гэтага была створана адумысная Школьная Камісія, якая ўраз-жа распачала сваю працу.

Задача была дужа нялёгкая. Ня было вучыцельскіх сіл, ня было школьных падручнікаў, ня было таго, без чаго вучыць, карміць і адзяваць дзяцей беларускае беднаты (усё гэта былі ў тыя часы першыя абавязкі ўсялякае школы!) было немагчыма: ня было грошы. Расейскі ўрад і аслаўлены „Татьянінскі Камітэт" беларускім установам абсалютне не памагалі, а тыя вялізарныя грошы, якія зьбіраліся загранінай дзеля дапамогі насяленьню нашага краю „польскае, літоўскае і беларускае нацыянальнасьці", і пападалі ў рукі польскага камітэту ў Вільні. Адзінай установай, якая ў той важны, пераломны мамэнт дапамагла беларусам, быў Літоўскі Камітэт пом. ахв. вайны. І весь з гэтай літоў-

скай дапамогай і распачалі віленскія беларусы будаваньне сваей роднай школы.

У працягу 3—4 месяцаў у Вільні было адчынена 6 беларускіх пачатковых школ і кароткатэрміновыя Беларускія Вучыцел. Курсы. Але Вільняй справа не абмежавалася: пачалася аднача сна арганізацыя беларускіх школ на вёсках, скуль расейская ўлада вывезла ўсіх сваіх настаўнікаў, працаваўшых над „об'единением русских племен и наречий"... І вось гэтае пустое мейсца трэба было запоўніць—і запоўніць сваім, родным. Дык і бачым закладзіны беларускіх школ у Лідчыне, у Горадзенскім пав. і ў шмат якіх іншых мясцах, дзе народ горача вітае навуку ў роднай мове.

Спачатку нямецкая ўлада адносілася да беларускае школьнае справы прост варожа. І ўсе гэтыя першыя беларускія школы, твораныя сіламі і ахварнасьцяй выключна самога беларускага грамадзянства, былі прымушаны перамагаць нялічаныя перешкоды, а то проста былі зачынены акупантамі, як гэта сталася ў Лідчыне. Толькі ад часу прыказу фэльдмаршалка Гіндэнбурга аб прызнаньні правоў беларускае мовы (ў студзені 1916 г.) справа значна палепшыдася. Немцы йшлі насустрэчу нясяленьню ўсюды, дзе яно жадала роднае школы.

Але акупанты ні за што не хацелі пакінуць агульнага кіраўніцтва школьнай справай у руках беларускага грамадзянства. І вось, каб зьліквідаваць Бэларускія Вучыцельскія Курсы ў Вільні, нямецкая ўлада загадывае адчыніць такія-ж конкурэнцыйныя курсы далёка ад віленскага цэнтру—у м. Сьвіслачы (ў Горадзеншчыне) і дзеля агульнага кіраўніцтва курсамі назначыла свайго дырэктара—вэнда Бэндлеху. Гадунцы гэтай першай шырэй пастаўленай беларускай вучыцельскай сэмінарыі дастаюць мейсцы ў беларускіх школах, якіх у часе нямецкае акупацыі ў Віленшчыне і Горадзеншчыне было закладзена 153.

Ня будзем тут затрымлівацца на пытаньні аб далейшым разьвіцьці нашых школ у Заходнітй Беларусі. Беларуская школа, нарадзіўшыся на Захадзе, перакінулася на Усход і буйна расцьвіла тамака,—а тут, на Захадзе, пасьля кароткіх мамэнтаў вольнага й шырокага школьнага будуўніцтва, зусім замёрла. І сяньня,—у дзесятыя ўгодкі закладзінаў першае беларуская пачаткавае школы ў Вільні,—мы бачым тутака адну-адзіную і... апошнюю, ды ўжо паміраючую ў загоне беларускую пачатковую школу...

Успамінаючы аб першых кроках беларускае пачаткавае школы ў Зах. Беларусі, гожа тут адзначыць адзін вельмі характэрны факт: беларуская школа была моцнай і трывалай толькі ў тыя пэрыяды, калі яна была творана рукамі беларускага ідэйнага грамадзянства. І кожын раз, як за гэту справу бралася ўлада — кожын раз апека канчалася для нас катастрофай.

Хай-жа гэтая гістарычная навука пераканае наш народ, што вечным і трывалым будзе толькі тое, што ён сам сваімі сіламі збудуе".

# З гісторыі і археологіі

## Майсеевы скрыжалі.

На вярху гары Сінай, на плато Сэрабіт Эльхадім, у старадаўным эгіпскім храме, пабудаваным у 1700 годзе да Ражства Хрыстова, знайдзены былі яшчэ ў 1905 годзе ангельскім вучоным Фляйдсэнам Пэтры каменныя скрыжалі (дошкі) з надпісамі, якіх яму не ўдалося разабраць. Фатаграфічныя зьнімкі з гэтых скрыжалеў былі адпраўлены ў Эўропу (самі скрыжалі былі надта цяжкі для перавозкі) і над імі працавалі высьветляючы змысл і зьмест надпісаў.

У 1916 годзе Аллан Гардынэр нашоў ключ к загадковым надпісам. Пазьней часьць надпісаў была разабрана вучоным Сэтэ і дохтарам Эйслерам і толькі вядомі семітолёг праф. Грым у Бэрліне прачытаў увесь надпіс і нядаўно рабіў аб ім даклад у невялікім кругу слухачоў у прыватным доме.

Надпіс з поўнай безсумнеўнасьцю устанаўлівае гістарычнае існаваньне Майсея.

Надпісы бадай выключна ўсе жыдоўскія, гэткія самыя, якімі пісана Біблія. З гэтага вынікае, што першыя літэрныя надпісы былі жыдоўскія. Грыму удалося прачытаць надпісы і ён саставіў з трох скрыжалеў тры радкі, у якіх аўтор іх, першасьвяшчэнік храму, прыносіць падзяку дачцэ фараона Хачэпсутс за тое, што яна выцягнула яго з вады Нілу і вывела яго ў вялікія людзі і падпісываець сваё імя—Майсей.

Прафэсар Грым кажаць, што ў яго аш уцяло духі, калі ён прачытаў гэты надпіс. Параўнаваньне гістарычных дат даець падставу думаць, што скрыжалі запраўды паходзяць ад біблейнага Майсея.

Навейшая гістарычная крытыка ня верыць у біблейнае апаведаньне аб выхадзе жыдоў з Эгіпту і ў існаваньне прарока Майсея, лічучу першае і другое выдумкай. Але сінайскі надпіс на скрыжалях даказвыець, што Майсей ня толькі жыў, але і запраўды быў выцягнуты з вады царскай дачкой і выведзен ей на верх славы і пачоту і што ўся яго дзейнасьць была зьвязана з гарой Сінай.

Гісторыя царыцы Хачэпутс многапаясьняецца у Бібліі. Ня глядзячы на прысутнасьць братоў (няродных) яна была назначана сваім



## Сельска-гаспадарскія парады

Я ПАЧОПКА.

# Зимаваньне пчолау і дагляд за пчоламі зімою.

**Жыцьцё пчолаў зімой.** Пчолы, як ведама, на зіму ня ўміраюць, так як мухі, або восвы. Як толькі пацісьне на двара сьцюжа, мароз, пчолы ў вульлі сабіраюцца ў адну кучу, ці як кажуць, у клубок. Клубок пчолаў заўсёды месьціцца на пустых чарачках вузы. На чарачках з запячатаваным мёдам пчолы ніколі ня зімуюць. Каля самага клубка пчолаў заўсёды ёсьць расьпячатаваныя чарачкі з мёдам. Як толькі з гэтых чарачак пчолы спажывуць увесь мёд, яны расьпячатаваюць новыя; гэткім парадкам клубок пчолаў пасуваецца павольна ўверх, ці ўшыр рамак.

Парадак, у якім пчолы сядзяць сабраўшыся ў клубок, надта падобны да таго, якім кладуцца на страсе гонты або дахоўка: — галоўка аднэй пчаліны знаходзіцца пад брушком другой, якая сядзіць паверх яе і гэтак далей, аж да самага мёду. Першыя пчолы, што знаходзяцца каля самага мёду передаюць мёд тым пчолам, што сядзяць пад імі, а тыя другім і гэтак далей, аж да самых апошніх пчолкаў ў клубку.

Трэба ўсе-ж такі зазначыць, што ў вульях з падвойнымі сьценамі пчолы ў нас зусім добра зімуюць і на дворы. Зімаваньне пчолаў у асобных будынінах-вулёўнях, праўда, з тэорэтычнага боку маець шмат болей выгадаў для пчолаў, чым зімаваньне іх на дворы, але на практыцы часта бывае так, што замест выгады ад зімаваньня ў вулёўнях бываець толькі адна шкода як для пчолаў, так і для пчаляра. Уся справа ў тым, што як устройства самой вулёўні, так і дагляд за пчоламі ў ёй вымагаець шмат веды і практыкі, а дзеля гэтага ўсім пачынаючым пчалярам мы радзілі-б адносіцца да зімаваньня пчолаў у вулёўнях на першых парах з асьцярогай, тым болей што пытаньне на сколькі выгадней і лепей зімаваньне пчолаў у вулёўнях перад зімаваньнем на дворы, — у нас на Белару і яшчэ ня вырашана.

Расьпячатаваныя чарачкі ня толькі кормяць, але і պояць пчолаў. Мёд, як ведама, надта ўбіраець у сябе вільгаць з паветра. Дзеля гэтага мёд у расьпячатаваных чарачках убіраець у сябе тую вільгаць, якая садзіцца потым на сьцены вульля і рамкі з сьцюдзёнага паветра, увайшоўшага ў цёплы вулей. Калі на дворы будзе цяпла градусаў 8—10, дык пот ня будзе садзіцца на сьцены вульля і пчолы, калі будзе гэткая пагода доўга, будуць царпець недахватак вады.

**Варункі для зімаваньня пчолаў.** Каб пчолы выйшлі на вясну спраўнымі і ў часе зімы не памёрлі, або не аслабелі, патрэбны для іх вось якія варункі.

---

бацькам насьледніцай прэстолу, вытрымала вайну з за прэстола насьледаваньне і выйшла за яе пераможцай, пасьля чаго стала выстаўляць сваіх улюбёнцаў мужчын. Найболей вядом з іх будаўнічы храму Дэрэльбары. Пры царыцы Хачэпутс на гарэ Сінай ужо былі мядзяныя капальні (руднікі). На плато Сарбут, ці Сэрабіт Эль Кадым стаяў дзіўны храм багіні Гатор, каля якога знайдзена многа надпісаў у тым ліку і гэты аб якім ідзець гутарка. Зусім магчыма, што ў пэрыяд рэвалюцыйнай смуты, пасьля сьмерці Хачэпутс, яе улюбенец Майсей змог вывесьці з Эгіпту частку яго жыхараў. Але ці гэта той самы Майсей, які дзякаваець Хачэпутс за тое, што быў ей выцягнуты з вады і дайшоў вялікай славы—яшчэ не даказана. Але шмат чаго высьветліцца, калі магчыма будзець устанавіць, што выхад жыдоў з Эгіпту быў пры 18 дынастыі фараонаў, гэта значыць прыблізна ў 1500 годзе до Р. Х.

### Новыя раскопкі ў Эгыпце.

Пад кіраўніцтвам п. Бруэра, дырэктара Французкага Археолёгічнага Інстытуту, у Каіру зроблена нядаўна шмат цікавых выкрыцьцяў. У Эір-эль-Мэдінэх но захад ад Тэб, адкапана часьць гораду, у якім некалі жылі маляры і рэзьбяры (скульпторы), якія упрыгожывалі дамоўі фараоноў (эгыпскіх цароў) у Даліне Цароў, а пры ім магільнік з дамоўямі саміх артыстаў. Дамоўі гэтыя ўсе падзямельныя і належуць да новага царства (18, 19 і 20 дынастыі). Кожнае дамаўё начынала рабіцца яшчэ пры жыцьці тэй асобы, для якой яно назначалася. Праца прывалася ў дзень хаўтур, незалежна ад таго дамаўё было скончана ці не. З гэтай прычыны ёсьць шмат дамоўяў ня сканчаных. Гэта дало магчымасьць французкім археолёгам азнаёміцца з тэхнікай егыпскай штукі.

... павінна быць досыць ...ы маглі зрабіць клуб значнай ... большы будзе клуб, тым болей ...не страшны мароз зімою.

... павінны мець досыць запасу мёду. ... мёду павінен быць разложаны так, ... мелі магчымасьць ім лёгка карыстацца.

4. Апроч мёду, пчолы павінны мець досыць пустой вузы каля мёду, каб сабрацца на ёй ў клубок, бо калі прымусіць пчолаў сабрацца ў клубок на вузе поўнай мёду, дык пчолы будуць цярпець ад сьцюжы.

5. Для пчолаў не павінна быць недахвату паветра; дзеля гэтага лётка павінна быць не заторкнена.

6. Чыстае паветра павінна ўваходзіць у вулей толькі з аднаго боку, каб у вульлі ня было скразнога ветру.

7. Пчолы павінны быць захаваны ад вялікага ветру і маразоў.

Апроч гэтых галаўнейшых варункаў, павінны быць дапільнованы і другія, аб якіхбудзе казана далей.

**Зімаваньне пчолаў на двары.** Пчолы могуць зімаваць або на двары, на тым самым мейсцы, дзе стаялі ўлетку на пчальніку, або іх на зіму пераносяць у асобныя будыніны ці скляпы, якія завуцца вулёўнямі. Зімаваньне пчолаў у вулеўнях лепей тым, што пчолы зьядаюць за зіму меней мёду і ня так часта паміраюць ад сьцюжы і голаду, чым зімуючы на двары.

Мы разгледзім зімаваньне пчолаў на двары. Як толькі пачнуцца марозы, вульлі з тонкімі сьценамі, якія пакінены зімаваць на двары, трэба абляжыць саломай, сенам, а найлепей за ўсё абвязаць іх матамі з саломы. Вульлі, якія маюць досыць тоўстыя падвойныя сьцены, вяршкоў 3—4 таўшчыні, і калі сьцены цэлыя, можна нічым не абвязаваць

У вульлях з адлеглымі рамкамі пакідаюць адчыненай толькі адну сподняю лётку на ўсю яе шырыню, каб сьвежае паветра магло вольна прахадзіць у сярэдзіну вульля. У вульлях з глухімі рамкамі трэба пакідаць адчыненымі абедзьве лёткі. Каб у вулей не пападаў сьвет і не спадманаваў пчолаў на двор, а таксама, каб у вулей праз лётку ня дуў сьнег і вецер, лёткі трэба на зіму засланяць: перад лёткай нахілам стаўляюць дошчачку, якая засланяець у вулей сьвет.

Паверх рамак кладзецца падушка, а ўсё пустое мейсца паміж сьценамі вульля і застаўнымі дошкамі трэба забіць мохам, саломай ці чым іншым.

У вульлях з глухімі рамкамі, як, напрыклад, у вульлях системы Лявіцкага, каб лепей зьмянялася паветра, варта рабіць у верхніх планках рамак дзіркі (накруціць сьвярдзёльчыкам), або сярэднія рамкі рассунуць адна ад другой на паў-пальца. Рамкі рассуваюцца, складаючы гняздо на зіму, а не цяпер. Пустое мейсца пад рамкамі нічым не запіхаецца; сюды зваліваецца з гнязда шума і мёртвыя пчолы.

**Дагляд за пчоламі, якія зімуюць на двары невялікі.** Трэба пільнаваць, каб лёткі не задуваў сьнег, а таксама каб у лётках ня было мёртвых пчолаў, якія могуць заторкнуць лётку і не замярзала выходзячая з вульля пара. Дзеля гэтага трэба ў працягу зімы колькі разоў прачышчаць лётку тонкай палачкай ці драцінкай. У працягу зімы трэба разы два паслухаць пчолаў. Пад канец зімы слухаць пчолаў трэба часьцей. На прадвесьні слухаць пчолаў трэба часьцей дзеля таго, што ў пчолаў цяпер пачынаецца чэр і пчолы надта хутка зводзяць запас мёду.

Выслухаваньне пчолаў робіцца гэтак. Падыйшоўшы да вульля, прыкладаваюць вуха да лёткі і слухаюць. Часта адразу нічога ня бывае чутно, але, прыслухаўшыся далей, можна ўчуць у вульлі той ці іншы гук пчолаў. Калі ніякага гуку пчолаў, у вульлі чуваць ня будзе, трэба стукнуць пальцам аб сьцяну вульля. Калі пчолы не адзавуцца, трэба стукнуць крапчэй; калі і цяпер у вульлі будзе ціха — значыць, пчолы кончыліся.

Калі будзе чувацца роўны спакойны гук, то гэта значыць, што сям'я спраўная Калі стукнуць па вульлі, дык гэткая сям'я адразу павышаець гук, але зараз-жа сьціхаець і пачынаець гудзець ізноў роўна і спакойна.

Гук няроўны, падобны да шасту сухога лісьця, гук, у якім чутна трывога і слабасьць, кажаць аб тым, што пчолы галадаюць бяз мёду. Гэткіх пчолаў трэба зараз унясьці ў цёплую будыніну і падкарміць.

Сумны агульны гук, сярод якога чуваць галасы асобных пчолаў, сьведчыць аб тым, што пчолы страцілі матку.

Пчолы, якім сьцюдзёна ў гняздзе, робяць гук падобны як пчолы галодныя, толькі ў гэткім разе чуецца гук дрыжачы, як быццам *бжэж...*

Неспакойны гук, і калі пры гэтым пчолы выбіваюцца праз лёткі на двор, кажаць аб тым, што пчолам у вульлі надта душна.

Наагул трэба сказаць, што няспраўныя сем'і на стук адзываюцца нядружна і гук сьціхае няскора.

Па сіле гуку няма як меркаваць аб велічыні сям'і. Часта ў вялікай сям'і чуваць слабы гук дзеля таго, што клуб пчолаў далёка ад лёткі, і наадварот: слабая сям'я часта падаець, як быццам крэпкі гук дзеля таго, што клуб пчолаў блізка ля лёткі.

У працягу ўсей зімы трэба пільнаваць, каб ніхто ня трывожыў пчолаў, каб ніхто ня стукаў аб вульлі. Усякая трывога зімой надта шкодная для пчолаў.

Вясной, як толькі сонца пачне прыграваць так, што можна спадзявацца аблёту пчолаў, трэба прыняць заслонкі ад лётак, а сьнег перад вульлямі, калі ён яшчэ будзе, трэба лапатай раскідаць і паслаць перад вульлямі саломы, каб зваліўшыся на зямлю, пчаліна нэ замерзла.